


# КУЛЬТУРА — ЗДАБЫТАК НАРОДА

Кожная новая кніга аб дзейнасці Камуністычнай партыі сустракаецца грамадскасцю з вялікай цікавасцю. У гэтым—прызнанне вялікага аўтарытэту КПСС у народных масах. І вельмі радасна, што за апошні час ажывілася творчая актыўнасць гісторыкаў і з'яўляюцца усё новыя і новыя працы, прысвечаныя пытанням гісторыі партыйных арганізацый саюзных рэспублік, у тым ліку і Камуністычнай партыі Беларусі.

Адна з такіх кніг — манаграфія П. Сіліванчыка «Дзейнасць Камуністычнай партыі Беларусі па ажыццяўленню культурнай рэвалюцыі ў рэспубліцы», выйшла нядаўна ў свет.

Сваё даследаванне аўтар пачынае з кароткага пераказу ленінскага плана культурнай рэвалюцыі ў краіне, пераканальна раскрывае яе заканамернасць і гістарычную непазбежнасць. Сацыялістычная перабудова грамадства немагчыма без глыбокіх пераўтварэнняў у галіне культуры. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, ствараючы новыя грамадска-эканамічныя адносіны, зрабіла карэнны пералом у поглядах, ідэях і, значыць, у свядомасці, быце, культуры людзей. Гэты матэрыял у кнізе асвятляецца падрабязна і пераканальна.

У рэвалюцыйным пераўтварэнні краіны, у ліквідацыі культурнай адсталасці працоўных выключна важнае значэнне мела дзейнасць партыі ў галіне народнай асветы. Зразумела, што вырашэнне грандыёзных задач культурнага будаўніцтва патрабавала, у першую чаргу, ліквідацыі непісьменнасці. Гэтая задача вырашалася з сапраўды рэвалюцыйным размахам. Трэба сказаць, што даследчык, выкарыстоўваючы багаты фактычны матэрыял, добра паказаў працэс ліквідацыі непісьменнасці ў рэспубліцы, формы і метады, якія распрацавала і прымяняла Кампартыя Беларусі, выконваючы гэтую задачу.

Цікавы таксама матэрыял па гісторыі стварэння ў Беларусі шырокай сеткі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, што мела рашаючае значэнне ў справе падрыхтоўкі нацыянальных кадраў інтэлігенцыі. Аўтара цікавяць не толькі мерапрыемствы партыі па забеспячэнню росту сеткі ВНУ. Ён аналізуе і тыя глыбокія змены, што адбыліся ў арганізацыйнай структуры вышэйшай школы, у сістэме і метадах яе дзейнасці.

Раздзел кнігі, прысвечаны даследаванню мерапрыемстваў Кампартыі Беларусі па развіццю народнай асветы і росту масавых кадраў інтэлігенцыі, з'яўляецца самым буйным па аб'ёму і найбольш грунтоўным па зместу і характару выкарыстання крыніц. Тут шырока прадстаўлены артыкулы параўнальна мала вядомых выданняў, а таксама архіўныя матэрыялы, пра многія з якіх упершыню ідзе гутарка.

Як вядома, ленінскі план камуністычнага будаўніцтва ў СССР прадугледжваў стварэнне сацыялістычнай культуры на базе эканамічнай перамогі над буржуазіяй. Ул. І. Ленін неаднаразова падкрэсліваў сувязь эканамічнага і культурнага будаўніцтва, указваў, што культурная рэвалюцыя ў нашай краіне павінна развіцца ў простай і непарыўнай сувязі з развіццём і ўмацаваннем сацыялістычнага спосабу вытворчасці, сацыялістычных вытворчых адносін, што «... патрэбна пэўнае развіццё матэрыяльных сродкаў вытворчасці, патрэбна пэўная матэрыяльная база». Значыць, ліквідацыя непісьменнасці, знішчэнне бескультурнасці патрабавалі стварэння матэрыяльных перадпасылак. Аднак П. Сіліванчык, даследуючы працэсы развіцця культурнай рэвалюцыі, не дае характарыстыкі поспехаў рэспублікі ва ўздыме эканомікі, у павышэнні матэрыяльнага дабрабыту працоўных.

Галоўны змест усёй культурна-выхаваўчай работы праяўляецца ў першую чаргу ў вырашэнні ідэалагічных праблем. Таму аўтар і пачынае даследаванне барацьбы КП(б)Б за развіццё культурна-асветнай работы з растлумачэння выхаваўчых задач партыі, якія вынікаюць непасрэдна з сутнасці дыктатуры пралетарыята.

Гаворачы аб тым, што ва ўсёй ідэалагічнай рабоце выключна важнае месца належыць друку—магутнаму сродку фармавання свядомасці працоўных, арганізатару мас,—П. Сіліванчык паказвае развіццё сеткі газет і часопісаў у рэспубліцы. У 1926 годзе ў Беларусі выходзіла толькі 17 газет тыражом 90,6 тысяч экземпляраў. У 1938 годзе ужо выдавалася паўмільённым тыражом 199 газет, з якіх 149—на беларускай мове. У кнізе прыводзяцца цікавыя дадзеныя аб арганізацыі выдавецкай справы ў рэспубліцы.

Аўтар падкрэслівае, што культурна-асветныя ўстановы прымалі актыўны ўдзел у ідэалагічнай рабоце партыі і за кароткі тэрмін сталі неад'емнай часткай грамадскага жыцця.

Аўтар правільна робіць, што не абмяжоўваецца апісаннем работы клубаў і бібліятэк, а спыняецца на той ролі, якую адыгралі ў палітычным і культурным жыцці беларускага народа радыё і кіно. На жаль, ён піша аб гэтым бегла і павярхоўна.

Культурная рэвалюцыя ў СССР забяспечыла буйныя поспехі ў галіне літаратуры, тэатра, музыкі. Развіццё літаратуры і мастацтва з'яўляецца прадметам пастаяннай увагі Камуністычнай партыі, вынікам правільнай нацыянальнай палітыкі. Вельмі цікавы раздзел кнігі, дзе аўтар даследуе працэс станаўлення беларускай літаратуры і мастацтва.

Беларуская літаратура 20-х — 30-х гадоў—разнастайная па жанрах і прыёмах майстэрства. Трэба сказаць, што аўтар зрабіў рад цікавых назіранняў пры даследаванні гісторыка-літаратурнага працэсу 20-х гадоў. Асабліва гэта датычыць характарыстыкі літаратурных арганізацый («Маладняк», «Узвышша», «Полымя» і інш.), барацьбы перадавых дзеячоў мастацтва з праявамі фармалізму і натуралізму. Вельмі важна, што пры гэтым аўтар шырока выкарыстоўвае адпаведныя матэрыялы партыйных з'ездаў, пленумаў, пастановы ЦК КП(б)Б, раскрывае сутнасць перагрупіровак творчых сіл.

Але варта адзначыць, што раздзел аб літаратуры і мастацтве перагружаны другараднымі фактамі. Якую цікавасць, напрыклад, можа ўяўляць простае пералічэнне імён аўтараў, выканаўцаў, назвы твораў, што займае некалькі старонак? У гэты ж час некаторыя гістарычна важныя пытанні не атрымалі належнага асвятлення (Першы з'езд пісьменнікаў БССР, тэатральная дыскусія і г. д.).

У кнізе ёсць асобныя фактычныя недакладнасці. На старонцы 158-ай аўтар сцвярджае, што меры па далейшаму развіццю Інбелкульта прыняты трэцяй сесіяй ЦВК БССР 6-га склікання. У сапраўднасці новы статут Інбелкульта зацверджан ЦВК і СНК БССР крыху раней (25 чэрвеня 1924 г.). У новым статуце былі вызначаны перспектывы пераўтварэння Інбелкульта ў Акадэмію навук.

Нягледзячы на некаторыя недахопы, кніга П. Сіліванчыка з'яўляецца сур'ёзным укладам у справу вывучэння культурнага будаўніцтва ў БССР. Яна, бясспрэчна, будзе цікавай не толькі для гісторыкаў, але і для шырокага кола чытачоў.

У заключэнне нельга абысці маўчаннем даволі дзіўную акалічнасць: кніга аб культурнай рэвалюцыі ў БССР выдадзена тыражом ўсяго у 600 экземпляраў.

**К. ЦЭЛІКАВА.**

П. П. Сіліванчык. Дзейнасць Камуністычнай партыі Беларусі па ажыццяўленню культурнай рэвалюцыі ў рэспубліцы. Выдавецтва БДУ імя Ул. І. Леніна. Мінск, 1961.

# ПАКАЗ І ПЕРАКАЗ

Падзеі аповесці Леаніда Гаўрылкіна «Каця», надрукаванай у «Маладосці», адбываюцца ў беларускай вёсцы Зарадзвінне. У творы паказана, як калечыць свядомасць людзей рэлігійны дурман, як сектанты-штундысты заманьваюць у сваё кодла даверлівых людзей, як наша грамадскасць вядзе барацьбу з рознымі праявамі баптызму.

Усе асноўныя падзеі аповесці звязаны з «барацьбой за душу» галоўнай гераіні твора Каці.

Пра яе мінулае аўтар гаворыць даволі скупа. Скончыўшы дзесяцігодку, Каця збіралася пайсці працаваць у калгас на жывёлагадоўчую ферму. Але ёй перашкодзіла мачыха. Дзяўчына ўладкавалася на чыгунку пуцявой вартаўніцай. Там, як мімаходзь паведамляе аўтар, сустрэў Кацю нейкі студэнт-практыкант, ашукаў дзяўчыну. «Каця не стала яго шукаць — сілаю міл не будзеш».

Калі нарадзілася ў Каці дзіця, з мачыхай жыць стала немагчыма. За кожную капейку ўспыхвалі сваркі. Урэшце мачыха выгнала Кацю з малым дзіцем з хаты. У гэты момант (адсюль і пачынаецца ўласна апавяданне) і завітала да дзяўчыны на работу баптыстка Аўдоцця Лямех, запрасіла яе да сябе на кватэру. Пад уплывам Аўдоцці Каця пачынае наведваць малітоўны дом, куды спачатку зайшла проста дзеля цікавасці. Хлапец Андрэй, які таксама наведваў секту, звярнуў на Кацю ўвагу. Каця адчувае сімпатыю да хлопца.

Спачатку яна не бачыць нічога благога ў штундысцкіх сходах, але пасля паступова пераконваецца, што кіраўнікі секты выкарыстоўваюць рэлігійнасць людзей у сваіх мэтах. Жыццёвыя сутыкненні ў розных абставінах з кіраўніком секты Фёдарам Чубком, Аўдоццяй Лямех, Андрэем адкрываюць ёй вочы на многае.

Дапамагаюць Каці вырвацца са штундысцкіх путаў прадстаўнікі вясковай інтэлігенцыі і партыйныя работнікі — старшыня сельсавета Міхаіл Карэба, сакратар райкома партыі Мікалай Ляшчук, прапагандыст Аляксей Пархоменка.

Каця паступова выпростваецца, сэрца яе зноў адкрыта людзям.

На такім матэрыяле, безумоўна, можна пабудаваць цікавы твор. Леаніду ж Гаўрылкіну гэта, на мой погляд, не зусім удалося.

Дастаткова пераканальна выпісаны аўтарам вобразы Чубка і Аўдоцці Лямех. У іх лёсе шмат агульнага. Абое раслі ў аднолькавым асяроддзі, дзе панаваў дамастрой, дзе магутны дыктаваў волю слабому, дзе прывыклі жыць не сённяшнім, а ўчарашнім.

Перад смерцю бацька наказвае Аўдоцці маліцца, і яна слепа выконвае нікчэмную запаведзь, ходзіць у малітоўны дом. Калі ж муж Іван паўстае супраць гэтага, верхаводы баптысцкай шайкі штурхаюць Аўдоццю на разрыў з мужам. Сышоўшы з правільнай дарогі ў жыцці, Аўдоцця паступова становіцца на шлях злачынства — спекулюе, вядзе разбэшчанае жыццё.

Андрэй, атручаны воўчай філасофіяй бацькі, вырас баязліўцам. Ён не здольны пастаяць за сябе, за сваё шчасце. Была ў хлопца, скажам, схільнасць стаць музыкам, але бацька пашкадаваў грошай на баян. Андрэй пакінуў школу, не атрымаўшы сярэдняй адукацыі. Бацька прывучае яго да чаркі, пристасоўвае да мяшчанскага спосабу жыцця, да хлусні. І ў выніку, пакахаўшы Кацю, захацеўшы з ёю жаніцца, Андрэй не можа рашуча выступіць супраць бацькавай забароны.

— Гэтаму не быць! — стукнуў па стале Чубок... — ... Я табе забараняю з ёй бадзяцца. Чуеш?

— Яна ж сястра наша, — прашаптаў Андрэй.

— Сястра! Сястра!

А пасля, выйшаўшы з сынам з хаты, Чубок дадаў: «Навошта табе чужых карміць, зарабі хлеба хаця сваім дзецям».

Вось ён, фальшывы гуманізм, пра які так гучна распінаюцца баптысцкія прапаведнікі!..

Чытачу ясна, што такія двурушнікі, як Чубок і да яго падобныя, прыкрываючыся верай у бога, ніколі не кінуцца ў ваду ратаваць таго, хто тоне. Нажыва — вось іх бог і іх мэта. Чубок, напрыклад, займаецца самагонакурэннем. За грошы і за кавалак анучы такія людзі гатовы затаптаць у гразь і роднае дзіця.

Менш пераканаўча намаляваны празаікам іншыя героі. Аўтар цалкам не выкарыстоўвае тых магчымасцей, якія даюць знойдзеныя ім сюжэтныя сітуацыі для раскрыцця псіхалогіі герояў.

Возьмем хоць бы галоўную гераіню. Аўтар нібы скоўвае яе ўчынкі, паказвае Кацю такой, што яна ні на што не здольна сама, мачыха выправіла яе на чыгунку працаваць, потым — выгнала з хаты, практыкант — падмануў, Аўдоцця — аблытала.

Там, дзе наспявае канфлікт, дзе гераіня павінна дзейнічаць сама, дзе яна павінна прыняць рашэнне, аўтар абрывае сюжэтную нітку. «Начальства» пераводзіць яе на іншую кватэру, на іншую працу. Замест паказу герояў, якія дапамагаюць Каці, аўтар укладвае ў іх вусны напышлівыя дэкларацыі. Урэшце, Каця магла б перайсці на іншую кватэру і без дапамогі Аляксея і Веры, бо яна ў той вечар, калі апошні раз зайшла ў малітоўны дом, зразумела, што Андрэй, атручаны «філасофіяй» бацькі, — чужы ёй чалавек, бо пайшоў на падман. Дык ці варта было так моцна акцэнтаваць у аповесці «кватэрнае пытанне»?..

Бляднымі фарбамі напісаны эпізод прыходу Аляксея ў малітоўны дом, калі ён выкрывае Чубка як жуліка. Апроч таго, што тут не знойдзены адпаведныя сродкі для перадачы ўнутраных зрухаў у душы Каці, якія канчаткова штурхнулі яе ўстаць і выйсці з малітоўнага дома, дык аўтар яшчэ паўтарае і блытае тое, аб чым гаварылася ў творы раней.

Так, напрыклад, пра Чубка на стар. 40 ён піша: «Чубок здабыў сабе фіктыўныя дакументы (стаў старэй на дзесяць год) і ўхіліўся ад прызыву ў армію». А ў гэтай сцэне Аляксей так звяртаецца да Чубка: «Вы заклікаеце ўсіх быць сумленнымі.., а самі падрабляеце дакументы, зманшаеце сабе дзесяць год, ашукваеце дзяржаву». Так чытач і не ведае: Чубок падмаладзіў сабе гады ці наадварот. А ўзрост персанажа твора — рэч не другарадная.

Спрошчаны ў творы вобраз Івана — мужа Аўдоцці. У пачатку аповесці ён чалавек высокай свядомасці, які ўмее шанаваць свой гонар, не паддаецца капрызам жонкі, якая штурхала яго да нажывы. А пасля разрыву з жонкай стаў заўзятым шабашнікам, які ганяецца за доўгім рублём. Гэтаму павароту ў яго характары абгрунтавання ў творы няма.

Атрымліваецца такое ўражанне, што аўтар, які зрабіў заяўку на цікавы твор, пакуль што спыніўся на паўдарозе. Мастацкі паказ падзей і душы персанажаў ён часам падмяняе пераказам.

**Алесь КУЗНЯЦОЎ,**
**рабочы будаўнічага ўпраўлення № 19.**

Мінск.

# РАДАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ У ПОШУКАХ НОВАГА

Пашанцавала мінчанам гэтым летам. Яны ўбачылі на сталічнай сцэне спектаклі амаль усіх абласных тэатраў рэспублікі.

З поспехам выступіў Магілёўскі тэатр, спадабаліся шматлікім аматарам сцэнічнага мастацтва спектаклі Гродзенскага тэатра, які днямі заканчвае ў Мінску свае гастролі.

2 жніўня прыехаў у нашу сталіцу са сваімі спектаклямі Гомельскі тэатр.

Нельга было чакаць, што ўсе тэатры прывязуць на гастролі абсалютна бездакорныя спектаклі. Тым не менш многія іх пастаноўкі парадавалі гледачоў. Сярод іх можна назваць «Усё застаецца людзям» (Магілёўскі тэатр), «Салдаты», «У сябе ў палоне», «Дзеля сваіх блізкіх», «Тры таварышы» (Гродзенскі).

На жаль, існуюць яшчэ ў тэатрах спектаклі, якія проста адштурхоўваюць гледача сваёй мастацкай недасканаласцю, сцэнічным прымітывам. Часам гэта звязана з тым, што ў іх заняты акцёры, пазбаўленыя таленту, натхнёных адносін да сваёй творчай працы, а то проста непрыдатныя да той ці іншай ролі. Гледзячы такія спектаклі, часта думаеш, чаму, напрыклад, дазваляюць пажылым актрысам іграць ролі маладых жанчын, якія не стасуюцца да іх творчых індывідуальнасцей, а даручаны ім толькі таму, што яны з'яўляюцца жонкамі дырэктараў ці галоўных рэжысёраў. Навошта ў рэпертуар уключаюцца часам п'есы са спевамі, і безгалосыя акцёры псуюць усё ўражанне, бездапаможна намагаючыся спяваць.

Калі мы гаворым аб развіцці тэатральнай культуры, мы павінны мець на ўвазе яе новы, больш высокі этап. Дбаючы аб гэтым, трэба паставіцца да дзейнасці прафесіянальных тэатраў з большай патрабавальнасцю, намагаючыся знішчыць у іх коснасць і руціну. Я маю на ўвазе павярхоўнасць і застой рэжысёрскай думкі ў некаторых пастаноўках. Возьмем, напрыклад, спектакль Магілёўскага тэатра «Драпежніца» па п'есе Э. Фабра. Якую ідэю і творчую задачу вырашае рэжысёр М. Харошка ў гэтай пастаноўцы? Паказаць, што культ Напалеона вельмі моцна жыве ў Францыі і да сённяшняга дня? Што зацікавіла рэжысёра ў выбары гэтай п'есы? Хітрая інтрыга і пікантнасць сюжэта? Як можна ў наш час ставіць такія безыдэйныя спектаклі?

Сучаснасць гэта—не толькі тэма, а ў першую чаргу светапогляд. І сучасная па матэрыялу п'еса можа не адпавядаць сённяшняму светапогляду, а класічны твор з жыцця мінулага можа прагучаць са сцэны вельмі сучасна. У залежнасці ад таго, што гэта за твор і як прачытаў яго рэжысёр. Мінчане бачылі пастаноўку І. Папова «Без віны вінаватыя» па п'есе А. Астроўскага ў Гродзенскім драматычным тэатры. Калі глядзіш гэты спектакль, думаеш, чым жа ён адрозніваецца ад пастаноўкі, зробленай трупай антрэпрэнёра Бяляева ў Мінску ў дарэвалюцыйныя гады, якую мне яшчэ давялося бачыць? Хіба толькі тым, што там ігралі лепш. У спектаклі Гродзенскага тэатра ролю Кручынінай выконвае актрыса М. Папова, а між тым, у яе няма для гэтага дадзеных.

Сучаснае савецкае мастацтва—мужнае у сваёй аснове, яму не ўласцівы сентыментальнасць, хрысціянская жаласлівасць, песімізм і кволасць пачуццяў. Артыст савецкага тэатра абавязаны глыбока мысліць, разумець сацыяльную аснову сюжэтаў Астроўскага, умовы тых часоў, якія на кожным кроку спараджалі трагедыі Кручыніных. А хіба гэта ёсць у спектаклі гродзенцаў? Рэжысёр падыйшоў да п'есы непрынцыпова.

Мы не маем падставы сказаць, што цалкам збяднела сучасная рэжысёрская думка ў нашых тэатрах. Яна адчуваецца ў некаторых спектаклях таго ж І. Папова, Ю. Шчарбакова, Б. Эрына, Б. Арынянскага, М. Слівака, В. Броўкіна і іншых спрактыкаваных і больш маладых рэжысёраў. Але ж на сцэне яшчэ з'яўляюцца спектаклі, пазбаўленыя свежай думкі, рэжысёрскага майстэрства.

Калі мы гаворым аб уздыме культуры тэатра, то яе перш за ўсё трэба пачынаць з работы рэжысёра як галоўнага арганізатара і натхніцеля спектакля.

Трэба адзначыць, што гастролі абласных тэатраў у Мінску парадавалі акцёрскімі знаходкамі, адкрылі многа новых цікавых імён. Перш за ўсё хочацца назваць артыста Магілёўскага тэатра М. Радзіёнава. Створаны ім вобраз Дронава ў спектаклі «Усё застаецца людзям» поўны выключнай глыбіні і жыццёвай дакладнасці. З высокім майстэрствам выступаў акцёр у камедыі Шэкспіра «Утаймаванне свавольніцы». Дакладная акцёрская тэхніка і глыбокае разуменне вобраза праяўлены М. Радзіёнавым у выкананні ролі Броўдзі ў драме «Замак Броўдзі».

Гледачоў захапіла яркая індывідуальнасць выпускніцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, артысткі Гродзенскага тэатра Т. Шашкінай, якая бліскуча выканала ролі Любы («Салдаты»), Патрыцыі Хольман («Тры таварышы»), вясёлай і жыццярадаснай студэнткі Машы Клімавай («У сябе ў палоне»). Што захапляе ў выкананні Т. Шашкінай? Не толькі глыбокае разуменне сутнасці вобраза, адчуванне жанра, але і тонкае майстэрства ў раскрыцці пачуццяў герояў, праўдзівыя, жыццёва дакладныя паводзіны на сцэне.

Прыемна было бліжэй пазнаёміцца з артыстам Магілёўскага драматычнага тэатра А. Радаковым. Выконваючы ролю Петручыо («Утаймаванне свавольніцы»), ён стварыў вобраз моцнага, валявога чалавека, вельмі характэрнага для шэкспіраўскіх спектакляў. Вельмі цікава і тэмпераментна іграе артыстка Н. Фаворская Катарыну.

Прыемнае знаёмства мелі нашы гледачы і з артыстамі Гродзенскага тэатра Г. Корнам і В. Касценкам.

Прывабная і своеасаблівая камедыйная манера ў акцёра Гродзенскага тэатра Г. Дубава. Яго Гога («Салдаты») і Віця Белкін («У сябе ў палоне») незабыўныя. Яркія сцэнічныя дадзеныя і акцёрская прывабнасць вылучаюць маладую актрысу Магілёўскага тэатра І. Дашкоўскую. Выкананыя ёю ролі Машы («Час кахаць») і Біянкі («Утаймаванне свавольніцы») сведчаць аб яе цікавых сцэнічных мажлівасцях. Здольным майстрам паказаў сябе і малады артыст Б. Дружной.

Цяжка пералічыць усіх здольных, спрактыкаваных майстроў сцэны і прадстаўнікоў маладога пакалення ў абласных тэатрах. Іх многа.

Але іх было б яшчэ больш, калі б у тэатрах правільна вырашалася справа камплектавання калектываў.

Савецкі тэатр, як правіла, імкнецца да стабілізацыі. Мінуў той час, калі пасля кожнага сезона акцёр вандраваў з Керчы у Вологду, з Хабараўска ў Гродна. Аднак пры стабільнасці трупы абмяжоўваецца творчае спаборніцтва. Актрыса, якая выконвала ролі хлопчыкаў і дзяўчынак, з цягам часу старэе і вымушана пераходзіць на ролі характарных персанажаў. Тое самае адбываецца з выканаўцамі роляў маладых герояў і гераінь. Такім чынам у стабільнай трупе праз некалькі год становіцца залішне многа акцёраў на адны ролі і мала на другія. У такім выпадку рэжысура не можа правільна размеркаваць акцёраў у спектаклі.

З мэтай далейшага развіцця тэатральнай справы ў мінулым годзе быў прыняты конкурсны парадак замяшчэння творчых работнікаў у тэатрах. Наколькі гэта неабходна і мэтазгодна, можна меркаваць па многіх прыкладах. Артыстка Магілёўскага тэатра Л. Гамуліна не мела ў гэтым тэатры творчага разгарнення, бо актрыс яе плана там было многа. Калі ж яна перайшла ў Гомельскі тэатр, дык хутка заняла там вядучае становішча і атрымала званне заслужанай артысткі рэспублікі.

Вельмі слаба абнаўляецца трупа ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. У выніку — больш чым трэцяя частка акцёраў пенсіённага ўзросту не выконвае нават палові сваіх норм выступленняў. У тэатры ёсць даволі значная група акцёраў, якія ў пасляваенныя гады выпадкова трапілі сюды. Яны не маюць перспектывы росту, не могуць замяніць асноўныя акцёрскія сілы і ў той жа час займаюць месцы, якія з поспехам маглі быць заняты выпускнікамі Тэатральна-мастацкага інстытута па конкурсу.

Шкодзяць справе розныя групавыя і сямейныя ўзаемаадносіны, якія склаліся не толькі ў Тэатры імя Янкі Купалы, але і ў іншых тэатральных калектывах з прычыны не прынцыповага, не дзяржаўнага падыходу да справы з боку тэатральных кіраўнікоў. Скажам, жонка дырэктара Магілёўскага тэатра актрыса Н. Акульшына выступае ў вядучых ролях у спектаклях «Час кахаць» (Клаўдзія Герасімаўна) і «Усё застаецца людзям» (Наталля Дзмітрыеўна). Яна зніжае якасць добрых спектакляў сваім слабым выкананнем.

Мы не супраць таго, каб жонкі рэжысёраў і дырэктараў выступалі ў спектаклях, вядома, калі яны актрысы. Але трэба, каб яны ігралі тыя ролі, што ў іх творчых мажлівасцях, а не ўсё, што яны пажадаюць.

Ненармальнае становішча, якое склалася ў тэатрах з камплектаваннем труп, адмоўна адбіваецца на якасці спектакляў нават у Акадэмічным тэатры. Калі яго кіраўніцтва не прыме рашучых мер, не арганізуе конкурснага замяшчэння акцёрскіх пасад, справа не зрушыцца з месца.

Час рашуча патрабуе ад працаўнікоў прафесіянальных і народных тэатраў росту майстэрства. Тэатральнае мастацтва павінна быць узнята да ўзроўню духоўнага жыцця народа. А гэта магчыма зрабіць толькі тады, калі ўсе элементы тэатра, пачынаючы ад яго афішы і заканчваючы культурай спектакляў, будуць на належнай вышыні. Прафесіянальныя тэатры толькі тады апраўдаюць сваё прызначэнне, калі яны будуць узорамі высокай ідэйнасці і мастацкага хараства, не толькі прадаўжальнікамі лепшых традыцый мастацтва мінулага, але калі яны, развіваючы і паляпшаючы гэтыя традыцыі і тэатральныя сістэмы, будуць у той жа час смелымі наватарамі, разведчыкамі будучыні, калі яны будуць разглядаць сваё мастацтва як натхнёную песню душы, а не прафесіянальную звычку.

«У мастацтве сацыялістычнага рэалізму, заснаваным на прынцыпах народнасці і партыйнасці, смелае наватарства ў мастацкім паказе жыцця спалучаецца з выкарыстаннем і развіццём усіх прагрэсіўных традыцый сусветнай культуры. Перад пісьменнікамі, мастакамі, музыкантамі, дзеячамі тэатра і кіно адкрываецца шырокая прастора для праяўлення асабістай творчай ініцыятывы, высокага майстэрства, для разнастайнасці творчых форм, стыляў і жанраў»,—гаворыцца ў праекце Праграмы Камуністычнай партыі. Гэтыя словы клічуць усіх дзеячоў мастацтва да новых творчых пошукаў, да новых вышынь.

**Яўген РАМАНОВІЧ.**




Артысты прыехалі! Гэтая вестка, як маланка, абляцела калгас.

# ЦЫМБАЛЫ ГУЧАЦЬ НАД ПАЛЯМІ

Яшчэ зусім нядаўна закончыліся канцэрты Беларускага народнага аркестра на зялёных эстрадах абласных гарадоў нашай рэспублікі, а музыканты зноў у дарозе. Беларускую музыку і песню ў іх выкананні цяпер пачуюць і калгаснікі.

Артысты прыехалі... Гэтая вестка, як маланка, абляцела калгас «Прамень камуны» Слуцкага раёна. Прыезд прафесіянальнага музычнага калектыву — вялікая радасць для калгаснікаў. Пакуль настрайвалі цымбалы на імправізаванай эстрадзе, з'явіліся першыя слухачы — вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі. З іншых брыгад на аўтамашынах, веласіпедах пачалі з'язджацца даяркі, свінаркі, паляводы, садаводы. Ужо не было свабодных месц, а гледачы ўсё прыбывалі.

Гарачае прывітанне калгаснікам перадаў народны артыст БССР І. Жыновіч. Ён расказаў пра творчы шлях аркестра, пра яго інструменты, падзяліўся творчымі планамі.

Канцэрт закончаны, але доўга яшчэ не разыходзіцца публіка, узнікаюць ажыўленыя размовы, гутаркі.

— Прыязджайце да нас часцей, — гаворыць калгасны садоўнік Г. Пратасеня.

— Добрыя справы ў нас у калгасе, нашы людзі цягнуцца да культуры, і вы ў нас жаданыя госці,—гаворыць аграном В. Лім-

— Вялікае дзякуй, — ад імя ўсіх гаворыць старшыня Серадняковскага сельсавета А. Блышынская.

Нашы выступленні адбываліся ўдзень, увечары і нават уначы. Даводзілася чакаць, пакуль управяцца даяркі на фермах і з іншых брыгад збяруцца людзі.

Канцэрт у калгасе імя Сталіна Капыльскага раёна пачаўся позна ўвечары на двары праўлення, і калгасныя электрыкі паклапаціліся, каб музыкантам было светла, павесілі гірлянды лямпачак.

У нядзелю надвор'е было дрэннае. У гэты дзень мы прыехалі ў калгас імя Калініна Слуцкага раёна. Тройчы спынялася наша выступленне з-за дажджу, але гледачы заставаліся на месцы, канцэрт прайшоў з поспехам.

У час нашых канцэртаў было атрымана шмат запісак ад калгаснікаў, якія прасілі выканаць іх любімыя творы. Калі б мы паспрабавалі задаволіць іх, дык не хапіла б і сутак. Многа працы выпала на долю нашых баяністаў Рамана Гана, Генадзія Мандруса і лаўрэата VI Сусветнага фестывалю моладзі Веніяміна Бурковіча. Яны ігралі звыш праграмы.

Будучы на Случчыне, аркестр пабываў у гасцях у шахцёраў Салігорска.

У новым шырокаэкранным кінатэатры адбылася творчая сустрэча, якая прайшла пад дэвізам «Нашы падарункі XXII з'езду КПСС». На сцэну ўзняўся калектыў камуністычнай працы, які ўзначальвае тав. Кожухаў. Ён расказаў, што іх участак узяў павышанае абавязацельства. Змена выдае звыш плана 500 — 600 кубаметраў солі і займае першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве.

Мастацкі кіраўнік аркестра І. Жыновіч вітаў рабочых калійнага камбіната. Ён сказаў, што сваё выступленне музыканты прысвячаюць калектыву камуністычнай працы тав. Кожухава.

Выконваючы сацыялістычныя абавязацельствы, узятыя да XXII з'езда КПСС, Дзяржаўны народны аркестр даў адзінаццаць канцэртаў у калгасах Слуцкага, Капыльскага і Старадарожскага раёнаў Мінскай вобласці і восем канцэртаў у калгасах Віцебскага раёна.

**М. РУБІНШТЭЙН,**
**артыст Народнага аркестра.**
Фота аўтара.

Пасля канцэрта. Калгаснікі запрашаюць мастацкага кіраўніка аркестра І. Жыновіча прыехаць яшчэ.

Цымбаліст В. Бурновіч і баяніст Р. Ган па просьбе калгаснікаў іграюць звыш праграмы.

Другі «ярус».

